ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

ВЕРАСЕНЬ, 2013

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Праваабаронца Леанід Судаленка: патрабуем ад чыноўнікаў выканаць закон

СТАР. 3

Гомель: суд палічыў, што актывісты АГП не маюць права на пікет

СТАР. 4



# Lidové noviny: «Бяляцкі - найбліжэйшы да асобы Вацлава Гаўла»

***Чэская прэса лічыць, што найбольшыя шанцы атрымаць прэмію Вацлава Гаўла - у Алеся Бяляцкага.***

***Што пераважыць пры прысуджэньні прэміі Вацлава Гаўла: арыгінальнасьць наміната, яго сусьветная вядомасьць альбо эфэкт падтрымкі, разважае чэская газэта Lidové noviny. Ляўрэат прэміі будзе абвешчаны 30 верасьня.***

Яшчэ калі засноўвалася праваабарончая прэмія імя Вацлава Гаўла, чэскія праваабаронцы і журналісты адзначалі, што яна сутыкнецца з канкурэнцыяй. Бо ўзнагарода мае амбіцыі стаць прэміяй эўрапейскага маштабу, супастаўнай з Сахараўскай прэміяй за свабоду думкі. Стаяла задача знайсьці намінантаў, якія мелі б «гаўлаўскае» рэнамэ. Было адабрана трое прэтэнтаў: Алесь Бяляцкі, грузінская Асацыяцыя маладых адвакатаў і кітайская Суполка ў абарону правоў чалавека.

Прэмія Гаўла — міжнародная, і вырашаць яе лёс будзе міжнароднае журы, але калі разважаць, хто сам бліжэйшы да асобы Вацлава Гаўла, то гэта менавіта Алесь Бяляцкі

«Выбар будзе нялёгкі, — пішуць Lidové noviny. — Калі весьці размову пра арыгінальнасьць, то варта было б аддаць узнагароду прэтэндэнту з Грузіі, бо яшчэ ніхто з Грузіі не атрымліваў прэстыжнай праваабарончай прэміі. Калі мець на ўвазе маштабнасьць — тут на першае месца выходзіць Кітай. Але што да эфэкту падтрымкі — узнагароды найбольш заслугоўвае Алесь Бяляцкі.» Газэта адзначае, што ў гэтым выпадку, вядома, прападае арыгінальнасьць, бо беларускую апазыцыю ўжо ўзнагароджвалі прэміяй Сахарава ў 2004 і 2006 гадах, больш за тое — самому Алесю Бяляцкаму ў 2005 годзе арганізацыя «Чалавек у нядолі» прысуджала прэмію Homo Homini.

«Але таму, хто пры Лукашэнкавым рэжыме асуджаны за ўхіленьне ад выплаты падаткаў — за тое, што на ягоны рахунак прыходзілі грошы з-за мяжы — гэтая прэмія была б да месца. Бо была б вельмі добра зразумелай у краіне Вацлава Гаўла, дзе дысыдэнты ў свой час самі сутыкаліся з «валютнымі парушэньнямі».

Прэмія Гаўла — міжнародная, і вырашаць яе лёс будзе міжнароднае журы, але калі разважаць, хто сам бліжэйшы да асобы Вацлава Гаўла, то гэта менавіта Алесь Бяляцкі, падсумоўваюць Lidové noviny.

Ляўрэат прэміі будзе абвешчаны 30 верасьня.

**Радыё Свабода**

## Стала вядома дата касацыі па смяротнаму прысуду жыхару Гомеля

Гэта адбудзецца 18 кастрычніка бягучага года ў судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда.
Нагадаем, нягледзячы на прызнанне віны ў забойстве дзяўчыны, прысуджаны да выключнай меры пакарання А. Груноў з прысудам не пагадзіўся і праз адваката падаў касацыйную скаргу. Прысуджаны да расстрэлу жыхар Гомелю з вышэйшай мерай не згодны, лічыць, суд павінен быў прыняць у якасці змякчаючай віну акалічнасць яго чыстасардэчнае прызнанне ў забойстве і супрацоўніцтва са следствам.
Таксама асуджаны да расстрэлу малады чалавек плануе звярнуцца са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН.

"Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства ... Жыццё любога чалавека належыць яго Творцу, Богу. Не мы, грэшныя людзі, даравалі быццё чалавеку, - не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Дзяржава, якая страляе сваіх грамадзян, кожны раз нанова распінае Хрыста », - падкрэслівае Прадстаяцель Беларускай Царквы Мітрапаліт Філарэт.

# Вясна і верасень Валянціна Стэфановіча

Першы дзень восені для намесніка старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна” Валянціна Стэфановіча стаўся аднойчы і першым ягоным днём “Вясны”. Менавіта 1 верасня малады юрыст Стэфановіч пачаў свой шлях у праваабарончую дзейнасць. Сёння, аглядаючыся на 15 год працы ў “Вясне”, аўтарытэтны праваабаронца ўзгадвае, як развівалася і дужала арганізацыя, як мяняўся ўласны светапогляд, падсумоўвае здзейсненае за гэты доўгі і няпросты час.

**Спадар Валянцін! Ці лёгка было тады, 15 год назад, прыняць рашэнне перайсці на працу ў праваабарончую арганізацыю?**

Скажу шчыра, такое рашэнне далося мне вельмі няпроста. На календары быў 1998 год. У той час адбыліся дзве вялікія падзеі ў маім жыцці: я скончыў юрыдычны факультэт і атрымаў чырвоны дыплом, а таксама і першае месца працы, пасаду юрыста на Менскім падшыпнікавым заводзе. У тым жа годзе я таксама вырашыў завяршыць сваю грамадска-палітычную дзейнасць, што было звязана з пэўнымі прычынамі. Адзначу толькі, што на той час адбылося непаразуменне з кіраўнікамі тагачаснага “Маладога фронту”, дзе я з'яўляўся адным з намеснікаў сустаршыняў. Я выйшаў з арганізацыі, вырашыўшы для сябе больш не займацца ніякай палітыкай, і паспрабаваць жыць, як кажуць, звычайным жыццём. Зразумела, за плячыма на той час былі і “Менская вясна” 1996 года і стварэнне “Маладога фронту” і першая “адсідка” – 5 сутак арышту напачатку 1997 года. Але з іншага боку, я не бачыў сябе ў структурах дзеючай улады адназначна. Для мяне яны перасталі існаваць пасля двух рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў і я не хацеў звязваць сваё жыццё з дзяржаўнай службай. Зрэшты мяне б туды, мусіць, і не ўзялі пасля майго бэкграўнда.

Тады да мяне звярнуўся Алесь Бяляцкі з прапановай далучыцца да праваабарончай арганізацыі “Вясна-96” (так тады называўся ПЦ “Вясна”), якая была зарэгістраваная як Менская гарадская арганізацыя. І я вельмі доўга прымаў рашэнне. Для мяне гэта азначала кінуць працу, перарваць юрыдычны стаж, забраць працоўную кніжку і пайсці ў нейкі невядомы для мяне свет. Мяне ўгаворваў і Алесь, і Вінцук Вячорка і Лявон Баршчэўскі, якія мелі досыць моцны аўтарытэт, як грамадскія і палітычныя дзеячы. Памятаю, што адзін з аргументаў Бяляцкага на мяне вельмі моцна паўздзейнічаў: «Ты ж, Валік, юрыст! Ты мусіш дапамагаць людзям, а не сядзець на гэтым заводзе».

І гэта мяне падштурхнула, хаця на той час я не зусім уяўляў сабе, што такое праваабарончая дзейнасць. Такое разуменне прыйшло значна



пазней, дзякуючы Польскай Хельсінскай фундацыі і асабіста Марэку Навіцкаму, які ўжо пайшоў з гэтага жыцця, і навучанню ў школах па правах чалавека. У гэтых школах сапраўды прыйшло разуменне, што абарона правоў чалавека гэта не проста юрыдычная дапамога людзям, што гэта значна шырэй, што гэта цэлая філасофія.

Вяртаючыся ў той час скажу, што Алесю ўдалося мяне ўгаварыць. У жніўні я звольніўся з завода і з 1 верасня 1998 года пачалося новае жыццё, новая праца ў новым калектыве.Там я пазнаёміўся і з Таццянай Равякай і з Палінай Сцепаненка, з іншымі супрацоўнікамі. Офіс тады размяшчаўся ў невялічкай двухпакаёўцы па вуліцы Дарашэвіча.

**А ці памятаецца сёння твой першы працоўны дзен**ь?

На жаль, гэтага моманту не памятаю, але памятаецца дзень, калі мы першы раз сабраліся разам перад 1 верасня, фактычна гэта быў пачатак працы мінскага офісу, Гэта быў досыць важны крок у жыцці “Вясны”, паколькі мы пачалі дзейнічаць як прафесійная арганізацыя. Перад гэтым, цягам папярэдніх гадоў, праваабарончая дзейнасць многіх сябраў сумяшчалася з асноўнай працай: Алесь Бяляцкі, напрыклад, быў дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, некалькі чалавек былі супрацоўнікамі гэтага ж музея. А тут нарэшце адбылося адкрыццё паўнавартаснага офісу, грамадскай прыёмнай, куды маглі б звяртацца людзі па дапамогу, а супрацоўнікі цалкам занятыя праваабарончай дзейнасцю, увесь свой час аддаючы “Вясне”.

**15 год – гэта ладны адмерак часу, за які, відаць, і ты сам змяніўся, і “Вясна” стала іншай. Якой яна запомнілася табе ранейшая і якой стала зараз?**

Вядома, “Вясна” вельмі моцна змянілася за гэты час. Найперш, арганізацыя стала нашмат больш прафесійнай, чым некалі. У Беларусі практычна нікога не было з праваабаронцаў, якія б дзейнічалі да нас і маглі б перадаць нам свой досвед, навучыць нас нечаму, Усе веды пра міжнародныя стандарты, міжнародныя механізмы ў галіне абароны правоў чалавека мы атрымлівалі самі праз навучанне, праз уласны досвед. Мы сталі за гэты час класічнай праваабарончай арганізацыяй, пазбавіўшыся ўсялякіх палітычных момантаў і заангажаванасці, на нас ніхто не аказвае аніякіх уплываў, ані правыя, ані левыя. Мы баронім не погляды, а баронім ПРАВЫ, зыходзячы з прынцыпаў універсальнасці правоў чалавека.

**Ці можаш вось так, адразу, прыгадаць самы светлы, станоўчы, дзень у тваёй дзейнасці, і самы змрочны?**

Адразу вось так светлага і яркага не прыгадваецца, а вось падзеі 2010-2011 года надоўга застануцца ў памяці, паколькі гэта быў самы цяжкі перыяд гісторыі нашай арганізацыі. Гэта і крымінальны пераслед нашага кіраўніка, Алеся Бяляцкага, і ўзбуджэнне крымінальнай справы ў дачыненні да мяне асабіста. Перада мной паўстаў сур'ёзны выбар, ці заставацца за мяжой, дзе я правёў фактычна 2 месяцы, ці вяртацца назад у Беларусь. На той момант я ня мог ведаць, што мне рэальна пагражае, а сітуацыя была крытычная, усё магло скончыцца турмой. Гэта быў пэўны момант ісціны, і я прыняў рашэнне вяртацца ў Беларусь, і нейкім цудам пазбег турмы па некаторых тэхнічных прычынах, але прайшоў праз некалькі судоў.

Працяг на стар. 3

І гэты змрочны перыяд, на жаль не скончыўся дагэтуль, паколькі старшыня арганізацыі Алесь Бяляцкі працягвае знаходзіцца ў турме, і нягледзячы на нашыя высілкі па вызваленні палітвязняў, многія з іх яшчэ ў зняволенні. Ды ўсё ж такі ёсць спадзяванне, што мы ўбачым Алеся раней, чым скончыцца ягоны турэмны тэрмін. Светлых момантаў напэўна таксама было нямала…

Мне заўсёды прыемна, калі прыходзяць да нас і кажуць “Дзякуй!” за тое, што мы некаму дапамаглі. А былі выпадкі, калі мы людзям, якія маглі быць расстраляныя, фактычна жыццё выратоўвалі. Можна ўзгадаць справу Яўгена Мікалуцкага, старшыні Магілёўскага абласнога дзяржкантролю, і прэс-канферэнцыю, якую мы ладзілі са сваякамі абвінавачаных у забойстве гэтага чыноўніка, пасля якой з'явіўся вялікі рэзананс і справа гэтая развалілася.

А яшчэ я шчаслівы, што сустрэў усіх гэтых людзей, “вясноўцаў”, і асабіста Алеся. Гэта вельмі дарага для мяне – быць сучаснікам тых, хто некалі стане гісторыяй, і я меў дачыненне да яе.

Шчыра скажу, што здараюцца моманты, калі хочацца паслаць усё падалей, калі я стамляюся, калі я не бачу ўвогуле нейкага выніку, і сітуацыя выглядае безнадзейнай, і хочацца некуды з'ехаць, і хочацца ўсё кінуць. Гэта праўда. Я б пакрывіў душой, калі б сказаў, што такога не было.

Але заўсёды ўзгадваю Алеся і ягоныя словы аб тым, што калі ў 80-тыя гады ён пачынаў грамкадскую і падпольную дзейнасць, на той момант ніхто не мог прадсказаць, што праз нейкіх там 10 гадоў знікне камуністычная сістэма, знікне Савецкі Саюз, а Беларусь стане незалежнай краінай. Усё мяняецца, жыццё рушыць наперад, а нашая задача нязменная – рабіць сваю працу максімальна прафесійна і заўсёды спадзявацца на лепшае.

**ПЦ «Вясна»**



# Леанід Судаленка:

## патрабуем ад чыноўнікаў выканаць закон

*Гомельскі гарвыканкам прыняў новае рашэнне аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе. Юрыст Леанід Судаленка, якому мясцовая ўлада дзесяткі разоў адмаўляла ў правядзенні мірных сходаў і на рахунку якога дзясяткі скаргаў у Камітэт па правах чалавека ААН, звязаных з парушэннем права на мірныя сходы называе гэтае рашэнне неадпаведным нават нацыянальнаму закону аб масавых мерапрыемствах.*

«Базавы закон аб масавых мерапрыемствах дазваляе праводзіць гэтыя мерапрыемствы ў любых прыдатных для гэтых мэтаў месцах, за выключэннем месцаў, прама абумоўленых законам. Гэтым жа законам на мясцовых чыноўнікаў ускладзены абавязак ўстанавіць месцы, дзе правядзенне масавых мерапрыемстваў не дапускаецца. Закон наўпрост забараняе праводзіць мерапрыемствы ў месцах, выкарыстанне якіх для гэтых мэтаў забаронена рашэннямі мясцовай улады", - цытуе заканадаўства праваабаронца.

«Чыноўнікі гарвыканкама вызначылі на паўмільённы горад усяго два пастаянных месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў, а вось месцы, дзе іх правядзенне не дапускаецца, вызначыць забыліся! Фактычна ўлада адмовілася выканаць закон. Дазвольце, што рабіць жадаючаму правесці "маёвачку" не ў пастаянным, а іншым месцы? Закон бо дазваляе правядзенне ў любых прыдатных для гэтых мэтаў месцах. Што грамадзяне самастойна павінны вызначаць прыдатнасць таго ці іншага месца?", - разважае юрыст.

Леанід Судаленка адзначае, патрабаванне аб усталяванні ў горадзе месцаў, дзе забаронена праводзіць масавыя мерапрыемствы з'яўляецца абавязкам гарадскіх чыноўнікаў, прама вынікаючага з базавага закона (артыкул 9). Тым не менш, мясцовая ўлада пайшла па іншым шляху - пад выглядам пашырэння месцаў для правядзення мірных сходаў вызначыла два новых гомельскіх "Бангалора", дзе акрамя сабак нікога не сустрэнеш, а вызначыць месцы, у якіх забараняецца іх правядзенне, адмаўляецца.

"Будзем дамагацца ад гарадскіх уладаў выканання закона, тады адпадзе неабходнасць у прызначаных уладай такіх пастаянных месцах, як пляцоўкі на скрыжаванні вуліц Барыкіна і Вайсковай у раёне Цэнтраліта і стадыёна школы алімпійскага рэзерву на ўскраіне Навабеліцы", - падвёў рысу праваабаронца.

**http://gomelspring.org/**

# Гомель: суд палічыў, што актывісты АГП не маюць права нагадваць аб выкрадзеным экс-міністры МУС

*Суддзя суду Цэнтральнага раёну Гомеля Марына Дамненка прыняла рашэнне па скарзе актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) на адмову Гомельскага гарвыканкама ў правядзеньні 20 пікетаў, якія планавалася правесці 7 мая ў розных месцах абласнога цэнтра ў дзень выкрадання экс-міністра МУС Юрыя Захаранка. Суд палічыў, што актывісты АГП не маюць права нагадваць гараджанам аб выкрадзеным экс-міністры МУС.*

- Ва ўсім сьвеце права на правядзеньне мірных сходаў грамадзянаў не зьяўляецца абсалютным і падлягае некаторым абмежаванням, якія ў абавязковым парадку павінны быць прадугледжаныя Законам і зьяўляцца неабходнымі для адной з законных паводле артыкулу 23 Канстытуцыі мэтаў. У прыватнасці, абмежаванне правоў і свабодаў асобы дапушчаецца ў інтэрасах нацыянальнай бяспекі, грамадзкага парадку, абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабодаў іншых асобаў, - камэнтуе сытуацыю старшыня Гомельскай абласной арганізацыі АГП Зінаіда Шуміліна.

- Як можна правесці, напрыклад дэманстрацыю ці шэсце на гомельскім "бангалоры" (пляцоўка перад ДК "Віпра"), калі яны прадугледжваюць, у першую чаргу, рух групы грамадзянаў па праезджай частцы вуліцы ў мэтах прыцягнення ўвагі да пэўных праблемаў? Выклікае здзіўленьне той факт, што рашэньне гарвыканкаму прайшло рэгістрацыю ў Нацыянальным рэестры праўных актаў, то бок тэза "жадаеш публічна выказаць сваё меркаваньне – плаці" фактычна набыла ў нашай краіне сілу закону, - абураецца актывістка АГП Натальля Шчукіна.

**- У выніку дзеяньня пазначанага рашэння ў Гомелі за апошнія дзесяць гадоў гарадзкія ўлады не дазволілі правесьці прадстаўнікам дэмакратычнае грамадзкасьці ніводнага з больш чым 150 заяўленых мірных сходаў. І, наадварот, па ініцыятыве ўладаў у цэнтральных частках гораду сыстэматычна праходзяць масавыя мэрапрыемствы й пры гэтым органы міліцыі, мэдыцынская служба й органы санітарнай ачысткі гораду на бязвыплатнай падставе выконваюць свае абавязкі, - абураецца 82-гадовы партыяц Міхаіл Цімашэнка.**



- Лічым, што гарадзкія ўлады паставілі пад пагрозу сам прынцып права на свабоду правядзеньня мірных сходаў грамадзянаў. Мы плянуем гэта даказаць, у тым ліку, калі спатрэбіцца, ў Камітэце па правах чалавека ААН. Мясцовыя ўлады і суды не пакідаюць нам іншага выбару, - заявіў сябра АГП, юрыст Леанід Судаленка, які прадстаўляў інтарэсы заяўнікоў у судзе.

http://gomelspring.org/

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.